ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ. АСОБНЫ НУМАР 40 ГРОШ.






| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Віленская вул., № 12, кв. 6 «МАЛАНКА» | № 7 15 САКАВІКА 1926 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот. „ паўгоду 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ — За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт. |
|---|---|---|



Ю. Монвід.

Сучасная Фэміда: Якая дзіўная роўнавага!



# ПАЛІТЫЧНЫЯ ЧАСТУШКІ.

## Беларусь.

Як сьвет сьветам ад вякоў
Ўсё судзілі мужыкоў,
А нарэшце раззлаваліся —
Да ксяндзоў ужо дабраліся,
Бо як можа ён „psia mać".
Беларусам сябе зваць!..
Як пазнае ўжо вастрогу
Тагды можа болей к Богу
З „хамскай мовай" не наважыцца,
А ўжо розум яго разьвяжацца:
І пазнае, што да неба
З „панскай мовай" лезьці трэба!

## Польшча.

Пэпээсы і эндэкі
І „пястоўцы" і „хадэкі"
Благім матам ўсе крычаць:
— Лігу! Лігу! Лігу — даць!
Як ня будзе месца ў Лізе
Дадзём *Заходу* па фізе,
Вазьмём з Францыяй развод, —
А зьвярнёмся на *Усход!*

---

Безработны крычыць: — хлеба!
Манархісты: — „круля тшэба"!
Сойм Вітосу надаеў,
Ён другога захацеў.

## Францыя.

Ой, дык тыры — тыры — тыры!
Францыя Польшч на буксіры
Хацела ў Лігу пацягнуць,
Свае фокусы загнуць.
Аж ужо Брыян у страху
Праваліўся ён з размаху,
Сядзіць плача ён на печы,
Дастаў мешалкай па нечым!

## Нямеччына.

Ў немцаў сьвята урачыста:
Ім кланяюцца ўсе чыста,
Аб падлогу б'юць ўсе лбом,
Садзяць ў Лізе за сталом.
Ужо нова эра пачынаецца:
„Трактат Вэрсальскі" распаўзаецца,
Зьнікнуць з ім ўсе пабедзіцелі —
Эўропэйскія чмуціцелі

## Італія.

Мусоліні ашалеў —
Крычыць грозна, нібы леў:
„Я зраблю, што захачу
„Усім гóлавы скручу!"
А сам баіцца, сам трасецца—
Гневу, помсты спадзяецца,
Што заткнець яму ўжо рот
Падняволены народ.

## Гішпанія.

Дыктатар Прымо-дэ-Рывэра
Адчыніць у Лігу дзьверы,
Так, як Скшынскі захацеў,
Але дарэмна ён пацеў,
Бо сказалі: „ідзі прэч,
К чорту мацеры пад печ!
Нам самім тут мала месца,
А яшчэ і ён тут прэцца!"

## Мароко.

А рыфэны і кабілы
Даюць чосу, што аж міла, —
Досыць ўжо цярпець ім зьдзекі,
Вызваляюцца з апекі.
А „культурнікі" з Заходу
Уцякаюць драла — ходу,
Забіраюць і манаткі,
Аж блішчаць „культурны" пяткі.

**Янка М.**







# А зязюлька кукавала.

Як на сьвет радзіўся Янка,
Як заплакаў многа-мала, —
Пела маці над калыскай,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Сьпі, саколік, ку-ку, ку-ку!

Як падрос, падняўся Янка,
Як ганяць статў ў поле стала, —
На жалейцы граў дзень цэлы,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Пасі статак! ку-ку, ку-ку!

Як вялікім вырас Янка,
Як стаў сеяць шчыра, дбала, —
За сяўбою пеў аб долі,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Сей палетак! ку-ку, ку-ку!

Як ні сеяў пільна Янка, —
Ўсё чагосьці не ставала:
Янка сеяў — людзі жалі,
А зязюлька кукавала:

Ку ку, ку ку, кінь дакуку!
Жаці будзеш, ку ку, ку ку!

Як старым-старым стаў Янка,
Як пазбыўся сілы ўдалай, —
Баіў байкі-казкі ўнукам,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Годзі баіць! ку-ку, ку-ку!

Як хавалі людзі Яоку, —
Галасілі многа-мала:
—А на што-ж памёр ты сейбіт!..
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Сьпі, саколік! ку-ку, ку-ку!

**Янка Купала.**



**Крапіва.**

## Ліга Нацыяў.

*Да паседжаньня 8-га сакавіка с. г.*

Ходзіць сьцерва Ліга Нацыяў,
За пярэбрыны ўсіх мацае,
Ці хто тлусты, ці хто доіцца,
Хто касматы, стрыгчы строіцца,
Скуру лупіць вунь з Нямеччыны,
З нажом ходзіць ля' Турэччыны,
Асьцярожная з Саветамі --
„Не займацца лепей з гэтымі,
„Бо ня толькі тае прыбылі —
„Часамі зубы каб ня выбілі!..





## Хто гэта такі?

„Бацька“ войска беларускага,
Пры ім якога й ня было,
Бо калісь аб ім пісалася,
Але сьлед той замяло...

Пасьля „бацькам“ бы ён „Jedności“
„Полёнафільства“ будаваў
І за срэбранікі юдавы
Ўсіх гразёю абліваў.

Пасьля партыю уласную
Хацеў у Сойме залажыць
Але ўсё нек праваліся
Не ўдалося ачмуціць.

Пасьля тэй зьнявагі, сораму
Ён надоўга замаўчаў,
Аб сваёй ужо лёяльнасьці
Больш адкрыта ня крычаў.

А цяпер ізноў закратаўся;
Аб сабе дае ўжо знаць,
Зноў з панамі неяк зьнюхаўся,
Нешта хоча пачынаць.

Нешта-нештачка таемнае
Шэпчаць з „доктарам“ у двух,—
Працу нейкую зьмяіную
Зноў пачне ўжо „чорны дух“.

**Я. Багдан.**



## Чарговы вояж.

Мітусьня у „Тымчасовэй“,
Прэзэс сумны, бы банкрут:
— *Денег нѣту... ищи снова...*
*Всѣ из „Рады“ убѣгут*:

Да рэдактара ён прэцца
На параду, што пачаць?
На гарэлку, ці зьбярэцца,
Каб таго хоць *накачать*...

На абед авансік хоча
Свой Кабычкін — сэкрэтар,
Якімовіч зноў скрыгоча,
Хоць ты плюнь яму у твар.

„Доктар“ „князя“ выбірае
У парадчыкі сабе,
Яму толькі давярае
І нярaз ужо дзяўбе:

— Ксёнжэ Друцкі-Падбярэскі,
Ты-ж юрысты, дык парадзь —
Гэта-ж грошы, быццам трэскі
Ў нас дарма з табой гараць;

Сэкрэтар глухі, ня чуе,
Мазгі жырам заплылі,
Якімовіч век гультуе,
Рэжа ў скрыпку — ці-лі-лі!

Князь саўсім свой нос павесіў
Галаву сваю схіліў,
Нічым „дохтара“ ня ўцешыў
Бо сябе не пахмяліў.

Паляцеў у Навагрудак
Прэзэс сумны, як бяз рук,
Мо' „з фінансавых *пабудэк*“
Загаворыць Аляксюк.

Можа той яшчэ паможа
Новы цiснуць мэмор'ял:
— *Он вѣдь ловок, он вѣдь тоже*
*Съѣзд когда-то созывал*“...

**Бадзяка.**



## У б. Беларускай Кнігарні.

— Чаму гэта ў вас палічкі парожнія? — пытаецца пан Х. у быўшага кнігара.

— Хоць палічкі парожнія, — затое кішані туга набітыя! — загадкова адказаў той.



## Дзьве праўды.

„Захацеў Наполеон згінуць,— пайшоў на Маскву“, — кажаць гістарычная праўда.

„Захацеў наш Ярмеіч быць вечным паслом, — залажыў „Сялянскі Саюз“, — кажаць сучасная праўда.

**Сук.**



## ДВА ПАСТЫ



Праўдзівы пост.



?... „пост“.

# Сьпявай!

Сьпявай, гаротны беларусе,
Паплакаў годзі ты!
Такой, як мы, працоўнай — мусі
Ня зьлічыш галіты.

Раней ня значыў ты нічога,
Запомніў сам сябе —
І шмат так часу дарагога
Ня сьніў аб барацьбе.

Аж вось загуў грымот аб Волі:
„Народы, хто жывы!
Падбайце самі ўжо аб долі
Сваёй уласнай вы!“

І ты, плячыма варухнуўшы,
З вачэй заслону зьдзёр,
Ды імя ўласнае пачуўшы,
Пячатку рабства сьцёр,

Што на табе была вякамі,
Атрутай на душы...
Хоць сёньня дружнымі рукамі
Свой лёс паварушы!

Пад моц надзеі уваскросшай
Былому кінь: „Бывай!“..
Пад гук дуды свае заглохшай
Нанова засьпявай!

І гумар прашчураў свабодна
Маланкай распалі,
Каб красавала мова родна
На беразе Вяльлі.

А там папрэцца год за годам
Твой новы быт у высь,
Пачнуць і нас лічыць народам,
Як муселі калісь...

**Краўцоў Макар.**



## Дуэт Ярэміча з Рагуляй.

Ляцяць гады, мандацік гасьне,
А што пасьля рабіці нам?
Ну што, як „Пяст“ па Сойме шасьне,
Дый шчэ які лявейшы хлам?
Пачнуцца выбары няжданна,
Яшчэ хутчэй, як трэ' было-б,
Для злотых дзевяцьсот — Нірванна,
Хоць рассадзі сабе ты лоб!
Дык нельга спаць! „Саюз Сялянскі“
Нам як-мага трэ' скалаціць...
І годзі ўжо каняк Пазнанскі
Замест гарэлкі простай піць.
Папруцца пэўна грамадою
За намі дурні-мужыкі,
А не — дык з торбай мы адною
Застацца можам, бедакі.
Адзін забыўся тэлефоны,
Як трэба добра папраўляць,
Другі — хоць крыху і вучоны —
Ня будзе мець за што гуляць.
Дык зноў на выбары, хоць трэсьні,
Павінен кожны з нас ісьці,
А там старыя будзем песьні
На новы лад сабе гусьці.

**Звончык.**

**Ковальчук.**

## На вуліцы.

— Калі ласка, — так жанчыну
Чалавек пытае:
Ці ёсьць у вас дзе тут школа?
Дачку я, вось, маю;
Што за кніжкай прападае;
Няхай-бы паўчылась!...
— Была калісь, — кажа баба,
Дый чагось закрылась,
А цяпер няма". — Вось гора!
Што маю рабіці?!
— А ці ёсьць тут шынок блізка—
Горла прамачыці?..
Хадзіў, хадзіў — не шкадзіла б
Выпіць, выбачайце"...
— А вун адзін, а вун другі
Любы выбірайце!..

(*З украінск.*) **Я. М.**



## У судзе.

— Прашу ласкава, пане судзьдзя, разглядаць гэту справу пры замкнёных дзьверах.
— Чаму? Ці вашы паказаньні будуць сакрэтнымі?
— Не! Але ў вас тут скразьнік, а я цярплю на рэўматызму ног.




## Часы.

**Машыніст**: А ты, малы, што тут робіш?

**Пролетары**: Ня маем грошай на алей і масла, дык матка казаланазьбіраць шмару, што вось капае, — будзе да бульбы.

(„Mucha")

---

## Ні ўніз, ні ўгару...

У аднэй каталіцкай...

Pardon, не саўсім, праўда, каталіцкай, але так на добрыя дзьве трэція часьці каталіцкай дзяржаве засядаў суд...

Дык ня дзіва, што суд засядаў, бо дзе-ж на сьвеце ёсьць такая дзяржава, каб ня было судоў.

Як-жа ж можна бяз судоў?

Ніякага ладу ня будзе...

А суд засядаў і, засядаючы, разглядаў справу вельмі паважную...

Судзіў каталіцкага ксяндза, самага звычайнага ксяндза, гладзенька выгаленага, поўненькага, ў даўгой чорнай сутане.

А можа ксёндз быў і не саўсім звычайны, бо быў ён... беларус.

Такім ужо, бачыце, ўрадзіўся ён недзе ў беларускай вёсцы на Горадзеншчыне і ані ня спольшчыўся ад таго, што выбіўся з сялян у ксяндзы.

Невядома, як там той суд яго судзіў, бо справа разглядалася пры зачыненых дзьверах, але пакуль яшчэ дзьверы былі не зачынены, дык суд адбываўся публічна і аб гэтай часьці працэсу можна пісаць.

Пры зачыняньні дзьвераў суда, ці, лепей кажучы, пры дзьверах зачыненых, трэ' было, па звычаю, разглядаць справу абвінавачанага ксяндза ў прысутнасьці „даверанях мужоў", як з боку самога абвінавачанага, таксама і з боку абвінавачаньня.

З боку абвінавачанага ў залі суда застаўся таксама ксёндз-пасол на Сойм. І гэтак сама — беларус.

З боку абвінавачаньня выпаў лёс быць „даверанным мужам" (mężem zaufania) *тоже бѣлоруссу*, самому прэзэсу Тымчасовэй Рады Бяларускей.

О, ён заўсёды гатовы... *угодить* начальству...

— *Жена, дѣти, понимаете! Как же*...

Суд скончыўся..

Ксяндза засудзілі.

І каб не павялі яго ў вастрог, трэ' было ўнясьці ў касу суда пару тысяч злотых залогу...

— *Понимаете, понимаете, не могу-ли и я, как бѣлорусс, понимаете!* — зьвярнуўся да ксяндза пасла (ну, ведама-ж не да засуджанага ксяндза, а да другога, да пасла-ксяндза) шустры прэзэс Тымчасовэй...

І, пасьля гэткага *понимательскаго* ўступу, ахвяраваў на патрэбны залог сто злотых.

Кажуць, што прыходная часьць бюджэту „Тымчасовэй Рады" ад гэткай ахвярнасьці яе прэзэса яшчэ не зьмянілася:

Ні ўніз, ні ўгару...

**Звончык.**





# ПРАМОВА

**пасла Індыка - Эндэкавіча ў Сойме.**

Ціха!.. Ша! Маўчаць, як я мувен!..

Высокая Палата! Высокая Палата — а — а!.. Мяне выбралі не дзеля таго, каб я выслухаваў вось гэтыя дзікія крыкі папраўдзе дзікіх нацыянальных меншасьцяў і гэтай галоты — лявіцы, а дзеля таго, каб вы, каб яны, каб усе і каб увесь край, а нават і заграніца мяне слухалі. Вы бачыце, панове, як наш край з кожным днём хутка коціцца ў прорву анархіі, а ўсё праз тое, што работнікам нейкага там васьмігадзіннага дня захацелася. Што гэта за дурная выдумка сацыяльная?! Чаму гэта за часаў бацькі нашага, найясьнейшага пана і яго царскай мосьці нам добра было? — Таму, што работнікі па 12—14—16 гадзін працавалі і ўсё добра было, бо работнік, як шмат працуе, дык ня мае часу на ўсялякія выступленьні, забастоўкі, дэманстрацыі, маніфэстацыі, інтэрпэляцыі і гэтаму падобныя чартоўска-бальшавіцка-анархістычныя фокусы. А дзеля таго я прыказаваю высокай... (шум і галасы: не прыказавай, бо не Мураўёў!) ну, прапаную Высокай Палаце, каб якнайхутчэй скасаваць гэты пракляты васьмігадзінны дзень працы, бо праз яго нас ня хочуць пусьціць у Лігу Нацыяў, ня хочуць даць нам загранічнай пазыкі, а на загранічнай біржы наш злоты коціцца ўсё ніжэй і ніжэй, а ў краі крадуць у міністэрствах, банках, урадах, судох толькі праз тое, што яшчэ не скасаваны васьмігадзінны дзень працы. А дзеля таго я спадзяюся, што вы, панове, хто хоча, каб вярнуліся даўныя салодкія часы, хай падае свой голас за мой ўнёсак не зважаючы на крыкі ўсей гэтай галоты (паказвае на лявіцу).

## Да чаго дайшло.

У 1924 годзе паліцыя „на крэсах“ ганяецца за бандай атамана Мухі і ніяк ня можа яго знайсьці. Колькі паліцыянтаў уварвалася ў хату селяніна-беларуса і пытаюць яго:

— Ці відзеў ты Муху?

— Здурнелі ці што, — хто-ж ня відзеў мухі?!

— Дзе відзеў, дзе? — кажы хутчэй! — сьпяшаюцца паліцыянты.

— А ці-ж паны ня бачылі? — пытаецца ў іх селянін.

— Не, ня бачылі! — адказваюць паліцыянты хорам.

— Ну і дурныя! — дзівіцца селянін: у нас у хаце, на дварэ, ў хляве.

— Вядзі, пакажы! — крычаць паліцыянты і самі разлажыліся на дварэ ў баёвым шыху.

Зьдзівіўся вельмі селянін, злавіў у руку муху і паказвае паліцыянтам:

— Во муха!

— Дурны! Нам трэба Муху— бандыта.

— Вось часы насталі пры польскіх парадках, што ня толькі людзі, а нават мухі бандытамі парабіліся,— злосна сказаў селянін, плюнуў на ўсё і пайшоў сабе да хаты.

В. Б.

## Селянін і газэтчык.

Усім ведама, што паліцыя прасьледуе тых газэтчыкаў, якія прадаюць беларускія опозыцыйныя газэты, дзеля таго яны іх ніколі ня маюць. Адзін селянін, ня ведаючы гэтага падходзіць да газэтчыка і просіць газэтку.

— Якую? — пытае той.

— А якія маеш?

— „Кур'ер Поранны“, „Рэч паспалітую“ ..

— Ня хочу я твае куры паранны і да яе падобных, — дразьніць яго селянін. Дай мне праўдзівую газэту!

— Можа „За Свободу“?

— Не, ня хочу я твае панскае „Свабоды“, дай мне лепей мужыцкую.

— Ну „Красное Знамя“?

— Вось гэтага я яшчэ ня чуў. А хто яго выдае?

— Пэ—пэ—эс!

— Відаць што „пес“, бо чалавек не паважыўся-б гэтак туманіць вочы беларусам памаскоўску.

— Ага! Вы беларус, — маю вось для вас „Беларускае Слова“.

— Ня хочу я рук паганіць гэтакай брыдой. Ляпей ахрысьцілі-б яго „Дэфэнзыўнае Слова“, бо нічога ў ім беларускага няма.

**С-н-свой.**



## Як хто кахае.

*Кухарка* — горача.
*Цукернік* — салодка.
*Урадовец* — афіцыяльна.
*Гімназісты* — клясычна.
*Доктар* — сьмяротна.
*Бомбардзер* — агніста.
*Коопэратар* — супальна.
*Журналісты* — сэнсацыйна.
*Дантысты* — бязлітасна.
*Тэолёг* — пабожна.
*Поэт* — фантастычна.
*Дурань* — верна.

**„Зиз“.**



## Будзе рэлігійным!

— Скажы, дачушка, чаму ты ня хочаш ісьці за Янку?

— Я ня люблю яго за тое, што ён безрэлігійны. Напрыклад, ён кажа, што няма пекла...

— Но, но! Будзь спакойна! Гэта нічога: як пажыве з табой колькі месяцаў, дык і ў пекла паверыць!..



## Добры рахунак.

— Пазыч мне сто залатых.

— Добра! Але я маю толькі 60 залатых?!

— Нічога! Дай мне іх, а 40 будзеш вінават.



## Была добрая.

*Муж:* Хто мне гэтак папсаваў брытву? Чым я цяпер буду брыцца?!

*Жонка:* Вось дзіва! Як я ўчора адчыняла бляшанку са шпротамі, дык была зусім добрая.



## Цяперашнія часы.

*Маляр*: Можа шаноўнаму пану намаляваць прыгожую вывеску? Як толькі яе павесіце, дык ураз будзе іншы рух у інтарэсе.

*Купец*: Дайце мне сьвяты спакой! Мне здаецца, што ў хуткім часе заместа вывескі я сам павешуся.



Крапіва.

## Будуйце лазьні.

Беларус па вушы гразьне,
Але ў вёсках Беларусі
Днём з агнём ніводнай лазьні
Не знашоў-бы нават мусі.

Ад Барысава да Слуцку
(Аж прызнацца нек нялоўка)
Ўсе прывыклі не палюдзку
Сяк-так боўтацца ў начоўках.

Сяк-так дзядзька плечы й грудзі
Папалам памые з горам,
Але далей кажа — „будзе“ —
Разьдзявацца, бачыш, сорам.

Так, як кветкі, маладзіцы
Тут страчаюцца парою,
Але ніжай паясьніцы
Абрасьлі, як ёсьць, карою.

Нават людзі ёсьць такія,
Што другую палавіну
Ім хто-небудь толькі мые,
Як кладзе у дамавіну.

Лазьняў болей—больш здароўя,
Гразь-жа нам нясе хваробу,
Дык збудуйце-ж—клічу зноў я—
Хоць адну на тую спробу.



## Добры сынок.

Сынка ў школу выпраўляе,
Маці, плача й навучае:
—Глядзі-ж, Андрэйка мой, вучыся
І ня дурэй і не ляніся.
Каб, як станеш сам на ногі,
Бацьком даў тады падмогі!

Сынок стаяў сам маўкліва,
Відаць думаў ён тужліва,
Было жаль кідаці хатку,
Бацьку роднага і матку.

Нарэшце з духам нек сабраўся
І гэтак к матцы адазваўся:
— Мне, мамка, проста сэрца
рвецца
Глядзеце — цяжка вам жывецца;

Нячым у школе боты драці, —
Я за зіму-б вам хлеба ў хаце
(Калі-б здароўе даў мне Бог)
Вун колькі зьесьці дапамог!

А так, што зробіце вы самі,
З такімі дрэннымі зубамі.
Чужы ніхто вам не паможа...
А што — няпраўду кажу можа?

Я. Башкір.



## Палітыка.

— Якая ёсьць розьніца паміж быўшым міністрам скарбу Ўл. Грабскім і цяперашнім Зьдзехоўскім?

— Тая, што Ўл. Грабскі ўкінуў Польшчу ў прорву беды, а Зьдзехоўскі ніяк стуль выцягнуць ня можа. Імп...



## Дух часу.

Аднаго селяніна, Янку, ўгаварылі, каб злажыў свае ашчаднасьці (грошы) ў банк. За тыдзень прыходзе да банку і жадае пры ваконцы сваіх грошаў. Скарбнік намаўляе яго, каб пакінуў хоць некулькі грошай, каб ня выгасла конто.

— Не, — адказвае селянін, — жадаю ўсіх сваіх грошаў!

Скарбнік дае яму яго 100 залатых. Селянін пералічыў дакладна і аддае грошы назад.

— Усе ў парадку, — кажа Янка. Я адно хацеў бачыць, ці ня ўкралі. «Зиз».



— Вось дзіўна, чаму гэта рэдукуюць толькі ніжэйшых урадоўцаў, а вышэйшыя застаюцца на сваім месцы?

— А ў нас у Вільні звальняюць і вышэйшых.

— ?

— Чытаў-жа, мусіць, у газэтах: арыштавалі падпракуратара Гурчына; засудзілі камісара Шольца і...



## Добра адказаў.

Беларус заходзе ў польскую кнігарню і просіць „Беларускі лемантар“.

— Мы гэтакім таварам не гандлюем, — адказвае кнігар.

— А чым?

— Дурнямі..,

— Эге, мусіць добра торг ідзе, калі толькі адзін дурань застаўся, — адказаў селянін, паказваючы пальцам на кнігара.

С-н-свой.



### У ДОКТАРА.

— Вы вельмі кепска выглядаеце. Вам канешне трэба спачынак.

— Гэта немагчыма!

— Чаму? Вы шмат працуеце?

— Не! Калі за сном і адпачыць няма калі.

### НА КІРМАШЫ.

Баба ў падзёртай вопратцы:

— Колькі каштуюць гэтыя гусі?

— Нашто пытаешся? Усё роўна ня купіш!

— Няўжо-ж беднаму чалавеку і запытацца ня можна! Нават гэтай прыемнасьці перад сьвятам не даюць!..



### ДЭЗЭРТЫР.

У вагоне едзе ахвіцэр, а насупраць яго сядзіць пасажыр, па каўняры каторага поўзае блашчыца.

— Пане! во дэзэртыр ходзе,— паказвае ахвіцэр на блашчыцу.

— Што, дэзэртыр? — Дык марш да войска!.. — адказаў пасажыр, скінуўшы блашчыцу на ахвіцэра.



### НА НАВУЦЫ СТАРАСЛАВЯНСКАЙ МОВЫ.

*Настаўнік*: Калі мы выкінем са слова „старана“ першае „а“, тады будзе старaславянскае „страна“. Падобна дзеецца і са словам „варона“ і гэт. далей.

*Вучань*: А як будзе, пане настаўнік, са словам „сарока“?

*Настаўнік*: Сядзі, дурань!

«Зиз».



### ЯШЧЭ НЯ СЬНЕДАЎ.

— Ці ты ўжо сьнедаў?

— Не, яшчэ ня сьнедаў.

— Чаму?

— Ды вось хадзіў да дому, а сьнедаць ня было чаго, дык я зьеў краюх хлеба ды два кавалкі сала, — вось яно і ўсё. Гэтак і хаджу, ня сьнедаўшы!



### ДОБРАЯ РАДА.

Пане доктар! Я бедная ўдава з пяцярма дзяцьмі: ня маю срэдстваў на пражыцьцё, а да гэтага яшчэ хворая: усё баліць мне ў сярэдзіне, кашляю. Што маю рабіць?

— Калі вы бедная і ня маеце за што лячыцца, дык вам трэба канешне ехаць у Крым, або ў Італію, бо толькі паўднёвы клімат вам паможа.






**Міністар асьветы Станіслаў Грабскі:**

У імя ашчаднасьці трэба зьменшыць лік школаў амаль на палову, а беларускіх школаў сусім не адчыняць, бо на што мужыку тая навука, калі яго справа, капацца ў зямлі і гнаі...



**Манархіст:**

(З прычыны утварэньня манархістычнай партыі у Сойме).

— Божа! Калі ты не пашлеш нам „бацькі-збавіцеля“, дык пашлі ляпей мне сьмерць, бо не магу я глядзець, як нацыянальныя меншасьці жывуць, растуць і набіраюцца сілаў, а працоўны люд дамагаецца сваіх правоў!

## Прыдзе пара.

Сьпімо, браткі, пара прачхнуцца.
Сьмяюцца з нас — зусюль сьмяюцца,
А мы што? — Цярпімо...

Прывык маўчаць, жыве, цярпіць...
Дакуль-жа будзеш сьлёзы ліць.
Дакуль, скажы, мужык!

— Слухай, як шэпчуць хвоі ў лесе;
Ўставай, бядак, мо' ўжо прачхнешся, —
Гамоніць цёмны гай.

Гудзе, скавыча віхар буйны,
Чутно скрозь грокат неспакойны
Словы: „Пара прыдзе!“

Хоць раз тады я засьпяваю,
Зруйную ўсё, з зямлёй зьмяшаю;
— Прыдзе той жданы час!

Зжану бяз сонца сьнег іскрысты,
Справаджу гром той пяруністы
Сустрэну сам вясну.

Магутнай сілай цемру хмараў,
Вагнём маланачных пажараў
Зруйную, разжану!

Той дуб што дзікаю прыродай
Пастаўлен вечнай мне прашкодай
Сталетні дуб зламлю!

А там, дзе вырас ён, дзе быў,
Дзе столькі кусьцікаў глушыў —
Дажджом змачу зямлю.

Яны-ж хай высяцца растуць,
Хай яркім вогнівам цьвітуць,
Прачхнуўшыся ад сну,

Хай кожны скажа ў прывітаньне:
— Я ждаў цябе й сустрэў пяяньнем
Прыгожую вясну!

**Міхась Васілёк.**



Рэдактар-выдавец **Янка Касяк**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня